# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



№4 (239)

красавік 2022

Інфармацыйны бюлетэнь • Супольнасць беларусаў свету "Бацькаўшчына"






# СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ (15 СНЕЖНЯ 1934 – 03 ТРАЎНЯ 2022)

Станіслаў Шушкевіч – вядомы беларускі навуковец, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар, шматгадовы сябра Рады ліквідаванага ўладамі міжнароднага грамадскага аб'яднання "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", першы кіраўнік незалежнай Рэспублікі Беларусь.

Станіслаў Шушкевіч быў адным з удзельнікаў Белавежскіх пагадненняў, якія ў снежні 1991 года пахавалі СССР.

Доўгі час ачольваў Беларускую сацыял-дэмакратычную Грамаду (з 2018-га – ганаровы старшыня).

У красавіку сёлета стан здароўя Шушкевіча пагоршыўся пасля перанесенай каранавіруснай інфекцыі, нейкі час ён быў у рэанімацыі.

Супольнасць беларусаў свету "Бацькаўшчына" смуткуе і выказвае шчырыя спачуванні родным, блізкім, паплечнікам спадара Станіслава Станіслававіча, і ўсім, хто ведаў гэтага выбітнага чалавека.

# ЯГО ІМЯ НАЗАЎСЁДЫ ЎВАЙШЛО Ў ГІСТОРЫЮ

Вядомыя беларусы пра адыход Станіслава Шушкевіча.

Гісторык, былы дэпутат Вярхоўнага Савету і грамадскі дзеяч **Алег Трусаў**: "Сёння ў лепшы свет адышоў першы кіраўнік незалежнай Беларусі Станіслаў Шушкевіч, які вярнуў беларускую мову ў палітычнае жыццё нашай краіны. Яго імя назаўсёды ўвайшло ў нашу гісторыю".

Журналістка **Вольга Швед**: "Спадар Станіслаў, дзякуй за ўсё! За знішчэнне монстра, за беларускую школу, за кароткі подых дэмакратыі. Гэтая памяць, сапраўды, будзе вечнай! Дзякуй і хай зямля будзе пухам".

Гісторык **Ігар Мельнікаў**: "Станіслаў Шушкевіч стаяў у пачатках беларускай незалежнасці, быў цікавай асобай і, напэўна, адным з важных гульцоў беларускай палітычнай сцэны. Ужо адзін факт яго ўдзелу ў падпісанні Белавежскіх пагадненняў, якія скончылі савецкую эру, назаўсёды ўпісала прозвішча гэтага чалавека ў гістарычныя падручнікі. А было шмат іншага. Як і ўсе, Станіслаў Шушкевіч памыляўся, не быў ідэалам, але не памыляецца той, хто нічога не робіць. Асабіста ганаруся, што быў знаёмы з гэтай гістарычнай асобай. Можа, будзе гучаць пафасна, але сышла эпоха".

Журналіст **Дзмітры Гурневіч**: "Няхай сабе ў нашай найноўшай гісторыі не ўсё пайшло як магло, але за тры рэчы я шаную Станіслава Шушкевіча і дзякую яму бязмежна. Гэта згода на просьбу БНФ склікаць Сесію Незалежнасці ў жніўні 1991 года, спрыянне ў абвяшчэнні нацыянальных сімвалаў дзяржаўнымі і за Белавежскія пагадненні".

Пісьменніца **Святлана Курс**: "Даўным-даўно, абвешаная дзіцём і клункамі, я стаяла ў сваім купэ і чакала, пакуль іншыя пасажыры пройдуць і дадуць выйсці і мне. Міма ішлі розныя прадстаўнікі апазіцыі, і толькі Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч спыніўся, прапусціў, прапанаваў дапамогу. Ён быў вялікі чалавек і такім застанецца. Памятаю яго з Клінтанам у Курапатах. Мілы, просты, годны, невысочанькі, непафасны, у сваім прафесарскім палітэчку. Арыстакрат. Помнік яму няхай стаіць на галоўным пляцы сталіцы, але не на пастаменце і ў чалавечы рост. Каб быў сувымерны, чалавек сярод людзей".

Намеснік старшыні Беларускай асацыяцыі журналістаў **Барыс Гарэцкі**: "Не схлушу, калі скажу, што першы. Гонар Беларусі. Герой Беларусі. Наш Станіслаў Станіслававіч. Глыбокія спачуванні".

budzma.org

in memoriam

# У МІНСКУ РАЗВІТАЛІСЯ СА СТАНІСЛАВАМ ШУШКЕВІЧАМ




Праводзілі апладысментамі і воклічамі "дзякуй!".

У архікафедральным касцёле Найсвяцейшага Імя Марыі ў Мінску (плошча Свабоды, 9) развіталіся з першым кіраўніком незалежнай Беларусі Станіславам Шушкевічам.

Развітанне пачалося ўвечары, 6 траўня, працягвалася ўсю ноч і завершылася імшой сёння.

Развітацца са Станіславам Шушкевічам прыйшлі некалькі тысяч чалавек.

Перад уваходам у касцёл выстраілася чарга.

Калі выносілі труну з целам спачылага, апладысменты і воклічы "дзякуй!" не сціхалі амаль дзесяць хвілін.

Людзі падчас развітання абураліся, што хаваць Шушкевіча будуць на Паўночных могілках, а не на Усходніх, дзе сапраўдны пантэон: Быкаў, Машэраў, Мулявін...

budzma.org

навіны "Будзьма Беларусамі!"

# НОВЫ ВІДЭАПРАЕКТ BUDZMA.ORG "ГІСТОРЫЯ ЗА 5 ХВІЛІН"!



Гісторыя з доктарам гістарычных навук Алесем Краўцэвічам - гісторыя развіцця продкаў сучасных беларусаў, іх культура, гісторыя войнаў, загадкі з жыцця вядомых асобаў і аналітычныя высновы пра тое, чаму стужка мінулых часоў у пэўныя моманты паварочвала так, а не інакш.




навіны

# БАЖ УГАНАРАВАНАЯ ПРЭМІЯЙ "СВАБОДА ПРЭСЫ 2022"

Беларускую асацыяцыю журналістаў уганаравалі прэміяй "Свабода прэсы 2022" ад шведскай арганізацыі "Рэпарцёры без межаў". Прэмію ўручаць да Міжнароднага дня свабоды прэсы 3 траўня.

Эрык Хальк'яер, кіраўнік "Рэпарцёраў без межаў" у Швецыі адзначыў, што БАЖ у поўнай меры заслугоўвае гэтай узнагароды.

"Нягледзячы на тое, што цяпер у цэнтры ўвагі Украіна, жорсткія рэпрэсіі супраць журналістаў у Беларусі працягваюцца, і БАЖ адыгрывае вырашальную ролю ў інфармаванні свету аб таталітарных злоўжываннях супраць журналістаў у Еўропе", – заявіў ён.

Нагадаем, учора з'явілася інфармацыя, што БАЖ стала лаўрэатам




Сусветнай прэміі ЮНЕСКА / Гільерма Кано за абарону свабоды прэсы.

БАЖ працуе з 1995 года. Яна аб'ядноўвае беларускіх журналістаў, з'яўляецца чальцом Міжнароднай федэрацыі журналістаў (IFJ) і Еўрапейскай федэрацыі журналістаў (EFJ).

У 2021 годзе ў офісах БАЖ неаднаразова праводзіліся ператрусы. У выніку арганізацыя была афіцыйна ліквідаваная Мінюстам.

novychas.online

# КАМАНДА БЕЛАРУСКАГА РАССЛЕДАВАЛЬНІЦКАГА ЦЭНТРУ АТРЫМАЛА ПРЭСТЫЖНУЮ ЖУРНАЛІСЦКУЮ ЎЗНАГАРОДУ




Беларускія журналісты сумесна з літоўскім парталам Siena.lt сталі лаўрэатамі прэстыжнай журналісцкай прэміі The Future Story Awards 2021.

Журналісцкая прэмія прысуджаецца за найлепшыя матэрыялы расследавальніцкага жанру.

bajby.buzz

навіны

# БЕЛАРУСЫ ЎШАНАВАЛІ ПАМЯЦЬ ТАДЭВУША КАСЦЮШКІ Ў ЗША

Прадстаўнікі беларускай дыяспары ў ЗША ўзялі ўдзел ва ўрачыстым мерапрыемстве, прысвечаным памяці нашага славутага земляка Тадэвуша Касцюшкі, якое штогод адбываецца ў Ваеннай Акадэміі ў Вэст-Пойнце (штат Нью-Ёрк).

Менавіта ў гэтую мясцовасць вясной 1778 года, падчас змагання Злучаных Штатаў за незалежнасць ад Вялікабрытаніі, прыбыў легендарны генерал і вайсковы інжынер, каб заняцца ўдасканаленнем фартыфікацыйных збудаванняў над ракой Гудзон. Зараз жа ў гэтым маляўнічым кутку дзейнічае адна з самых прэстыжных навучальных устаноў у галіне вайсковай справы.

На імпрэзе прысутнічалі супрацоўнікі дыпламатычнага корпуса Літвы і Польшчы, ветэраны, вайскоўцы розных рангаў, кадэты, сябры грамадскіх арганізацый. "Разынкай" мерапрыемства стаў парад, які зладзілі навучэнцы ваеннай акадэміі ў суправаджэнні вайсковага аркестру. Бадай, найбольш уразіў гасцей выступ маладых парашутыстаў, якія дэманстравалі сапраўднае майстэрства з дакладным прызямленнем у дакладную лакацыю на стадыёне.



Дарэчы, у Акадэміі праходзяць навучанне не толькі хлопцы, але і дзяўчаты, служба якіх не прадугледжвае ніякіх асаблівых саступак.

Нягледзячы на тое, што мерапрыемства праводзілася ўжо ў 19-ы раз, беларускія актывісты (сярод якіх былі прадстаўнікі Беларуска-Амерыканскага Задзіночання BAZA і Беларуска-Асветніцкай Лігі Амерыкі (BELA)) афіцыйна прысутнічалі на ім упершыню, аднак ужо атрымалі запрашэнне на наступны год. Больш за тое, адзін з нашых землякоў выступіў перад аўдыторыяй са змястоўным дакладам, а таксама ўсталяваў у канферэнцыйнай зале бел-чырвона-белы сцяг.

Вялікую цікавасць выклікаў выступ 93-гадовага прафесара Збігнева Крушэўскага – жывога сведкі Варшаўскага паўстання, а ў пазнейшым – вайскоўца і навукоўца. Прафесар шчыра распавёў пра шэраг эпізодаў адных з найбольш трагічных і ў той жа час гераічных старонак Другой сусветнай вайны, калі ён ажно пяць разоў аказваўся на мяжы пагібелі, аднак усё ж такі здолеў уратавацца і ў выніку стаў прафесарам універсітэта ў Чыкага.

Варта адзначыць, што прысутныя на імпрэзе генеральныя консулы Польшчы і Літвы неаднаразова згадвалі Беларусь і беларусаў, лёс і будучыня якіх зараз вельмі спалучаныя з лёсам Украіны. Паводле меркавання дыпламатаў, менавіта Усходняя Еўропа зараз – гэта той "кацёл", дзе крышталізуецца новае моцнае і свабоднае ўсходнееўрапейскае грамадства. І ў гэтай звязцы роля кожнай асобнай краіны вельмі важная, асабліва з улікам неабходнасці супрацьстаяння расійскай агрэсіі.

**Тэкст і фота Міхась Чаропка і Ірына Хадарэнка**

# БЕЛАРУСКІЯ І ЭСТОНСКІЯ ГРАМАДСКІЯ АРГАНІЗАЦЫІ ЗВЯРНУЛІСЯ ДА УРАДА ЭСТОНІІ Ў СУВЯЗІ З УВЯДЗЕННЕМ АБМЕЖАВАННЯЎ ДАТЫЧНА ГРАМАДЗЯН БЕЛАРУСІ

Беларускія і эстонскія арганізацыі грамадскай супольнасці накіравалі зварот да Урада Эстоніі ў сувязі з увядзеннем у гэтай краіне ў сакавіку гэтага года шэрагу абмежаванняў, датычных грамадзян Беларусі, незалежна ад іх палітычных поглядаў і грамадска-значнай дзейнасці.

У прыватнасці гаворка ідзе пра прыпыненне прыёму хадайніцтваў ад грамадзян Беларусі на атрыманне статусу электронных рэзідэнтаў, значныя візавыя, адукацыйныя абмежаванні, абмежаванні на працу, у тым ліку для высокакваліфікаваных спецыялістаў. Вядучыя ВНУ Эстоніі зачынілі свае дзверы для беларускай моладзі. Акрамя таго, у сакавіку гэтага года стала вядома, што на грамадзян Беларусі, якія пражываюць на тэрыторыі Украіны і не атрымалі ў гэтай краіне міжнароднай абароны, не распаўсюджваецца дзеянне часовай абароны ў Эстоніі.



Аўтары звароту выказваюць занепакоенасць у сувязі з гэтымі абмежаваннямі і звяртаюць ўвагу на тое, што гэтыя рашэнні прымаліся без уліку меркавання дэмакратычных палітычных цэнтраў Беларусі і арганізацый грамадзянскай супольнасці.

Прадстаўнікі грамадскіх арганізацый, якія падпісалі зварот, адзначаюць, што ў Беларусі пасля падзей 2020 года дзясяткі тысяч людзей прайшлі праз затрыманні і нечалавечыя ўмовы ўтрымання, больш за тысячу чалавек па-ранейшаму за кратамі і прызнаныя палітычнымі вязнямі. Фактычна "людзі ў Беларусі застаюцца закладнікамі, падвяргаюцца катаванням і рэпрэсіям і дапамагчы ім можа толькі кансалідаваная пазіцыя дэмакратычных сіл".

На думку аўтараў звароту, на гэтым фоне захады Эстонскага Урада можна трактаваць як падтрымку рэпрэсіўнай палітыкі беларускіх уладаў у адносінах да беларускіх грамадзянскіх актывістаў.

"Спадзяемся, што прынятыя рашэнні з'яўляюцца следствам недастатковага разумення сітуацыі ў Беларусі, а магчыма, проста непаразуменнем", – адзначаецца ў звароце.

Аўтары звароту лічаць важным стварэнне рэальнага механізма, дзе эфектыўна працуе сістэма ўзаемадзеяння дзяржаўных структур, міжнародных і грамадскіх арганізацый. "Такі падыход, – адзначаецца ў звароце, – ужо на працягу доўгага часу паспяхова працуе ў Літоўскай Рэспубліцы,



дзе дзяржаўныя органы сумесна з міжнароднымі і грамадскімі арганізацыямі Літвы і Беларусі вырашаюць праблему рэлакацыі, верыфікацыі, падтрымкі прадстаўнікоў трэцяга сектару Беларусі, людзей, якія сапраўды пацярпелі ад рэпрэсій".

"Мы спадзяемся, – пішуць аўтары звароту, – што вашая прыхільнасць да прынцыпаў дэмакратыі з'яўляецца цвёрдай і непарушнай, і што разам мы зможам выбудаваць эфектыўную сістэму ўзаемадзеяння так, каб тыя актывісты, на якіх абрынуліся рэпрэсіі за сваю дзейнасць у Беларусі, маглі бяспечна жыць і працаваць у вашай цудоўнай краіне".

Пад зваротам падпісаліся 20 грамадскіх арганізацый.

Тэкст звароту цалкам можна прачытаць па спасылцы па-ангельску, па-эстонску, па-беларуску ці па-руску.

мова

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА ЯК БІЗНЕС-ФІЛАСОФІЯ

Клуб беларускамоўнай практыкі нядаўна пачаў дзейнічаць у грузінскім Батумі. На выходных прайшлі другія заняткі клуба. І цікавасць да гэтага праекта пашыраецца. Галоўным прынцыпам клуба ёсць дэвіз "Стасуемся, а не вучым", а мэта – пераадолець моўны бар'ер дзеля пераходу на беларускую мову і проста атрымаць задавальненне ад размоваў з цікавымі людзьмі.

Арганізатар клуба Сяргей распачаў гэтую ініцыятыву толькі пару тыдняў таму, але гэтая справа для яго не новая – ён ужо арганізоўваў падобныя клубы ў Беларусі: як беларускай, так і англійскай моў. І цяпер, у сувязі з вымушаным пераездам, пачынае гэтую справу нанова.

– Быў час, калі я з'ехаў у Германію на некалькі гадоў, а потым вярнуўся ў Беларусь. І так атрымалася, што я згубіў ці не ўсе свае сяброўскія сувязі: мае ранейшыя сябры ажаніліся, павыходзілі замуж, у іх змянілася кола камунікацыі. Фактычна я прыехаў у горад, мне вядомы, але чужы, і мне проста не хапала камунікацыі. Тады я ў Мінску замуціў такі клуб, каб пазнаёміцца з новымі людзьмі. Той клуб сваю функцыю выканаў, я знайшоў шмат людзей, з якімі і цяпер камунікую. Гэтыя мае сябры сталі цяпер даволі вядомымі асобамі – папулярныя блогеры, музыкі, бізнесоўцы... Атрымаўся вельмі добры праект: я паўгода праводзіў такія клубы раз на тыдзень. Але потым заснаваў свой бізнес, мне ўжо не ставала часу на клуб, і я спыніў яго дзейнасць.

І вось праз пяць гадоў я зноўку аказаўся ў чужым мне горадзе, амаль без знаёмых і сяброў. І ў мяне зноў паўстала пытанне, што трэба знайсці людзей, з якімі можна размаўляць і бавіць час.

Ёсць яшчэ адзін схаваны інтарэс: я шукаю сабе жонку. Клуб жа – гэта патэнцыйна вялікае кола знаёмстваў. Тут можна пакамунікаваць, лепш даведацца пра чалавека, бо наш клуб – гэта не суполка вывучэння беларускай мовы, а клуб камунікацыі і нэтворкінгу.

Класна, што тут адразу сустракаеш людзей, у якіх прынамсі адна каштоўнасць супадае з тваёй. А каштоўнасць беларускай мовы, беларускай культуры – асабіста для мяне фактар, які ўмацоўвае сяброўства, не кажучы ўжо пра стасункі.

У планах – зрабіць з гэтага некамерцыйную франшызу. Апісаць цалкам праект арганізацыі клуба, каб потым такія ж клубы маглі працаваць у розных гарадах: я б цалкам перадаў ахвочым усю дакументацыю і методыку. Мне цікава, як гэта стартане і наколькі пашырыцца. Таму што пры добрай арганізацыі і пры добра пастаўленым працэсе, можна зрабіць sexy любую рэч: клуб аматараў фіялак, клуб фанатаў архітэктуры. І будуць тысячы чалавек размаўляць пра фіялкі – гэта цалкам магчыма, калі паставіць працэс камунікацыі людзей, каб яны задаволілі сваю патрэбу быць часткай нечага большага, камунікаваць, пашырыць свае кантакты.

**– І чаму б такой sexy-тэмай не быць беларускай мове?**

– Таму мая мэта – на некалькіх найбліжэйшых сустрэчах клуба паставіць гэты працэс: як гэта пакрокава адбываецца, зрабіць базу дыскусійных пытанняў, пераклады добрых цікавых пытанняў, распісаць методыку, сабраць фідбэк... Каб гэта было для людзей цікава – быць часткай кам'юніці. І тады нават тыя, хто не ведаюць беларускай мовы, будуць прыходзіць, каб задаволіць свае іншыя патрэбы ў камунікацыі – і адначасова далучацца да тых, хто можа размаўляць па беларуску, і хоча размаўляць па-беларуску. Такі план.

**– Падаецца мне, гэта больш падобна на нейкі бізнес-працэс...**

– Так, гэта стартап. Я вучыўся ў Германіі менавіта бізнесу, я там атрымліваў МВА, у мяне дастаткова вялікі досвед кіравання. Я кіраўнік IT-бізнесу, які працуе ў чатырох краінах. І ў прынцыпе, я гляджу на клуб як на лёгкі праект – у параўнанні з маім бізнесам, канечне. Бізнес – гэта больш складана, а аб'яднаць людзей вакол патрэбы камунікаваць, пашыраць кола стасункаў, весяліцца, мець fun – гэта вельмі лёгка. Таму гэта ў мяне такая "пясочніца" па стварэнні франшызы.

Я не вялікі фанат фіялак і архітэктуры, а ў беларускай мове я магу адначасова і задаволіць свае патрэбы, і зрабіць штосьці карыснае для іншых. Пры гэтым заставацца карысным у Грузіі гэтак жа, як я быў карысны ў Беларусі.

**– Пры такім падыходзе спатрэбяцца вядучыя, менеджары, суарганізатары, можа быць...**

– Так, і людзі гатовыя далучацца. Пасля першай сустрэчы адзін чалавек знайшоў нам памяшканне для другой сустрэчы. Пасля другой сустрэчы да мяне падышлі чатыры чалавекі, гатовыя валанцёрыць: не толькі дапамагчы з памяшканнем, але знаходзіць цікавыя пытанні, перакладаць іх, хтосьці будзе сувядоўцам, хтосьці дапаможа з апісаннем... Фактычна стартаваў цудоўны некамерцыйны грамадскі праект.

Людзям трэба – і яны далучаюцца да гэтай справы. Гэта не пытанне грошай для іх, як і для мяне. Яны могуць адчуць сваю значнасць, прыносіць карысць, што асабліва актуальна для тых, хто непакоіцца, што ён з'ехаў і больш нібыта не прыносіць карысці Бацькаўшчыне. Ну, і дасягаць тых мэт, што дасягаю я – камунікаваць, быць часткай нечага большага... У прынцыпе, такім чынам мы ствараем інстытут, які інтэгруе беларусаў вакол агульнай каштоўнасці. І гэты інстытут адначасова дае карысць яго чальцам.

Ёсць такая кніга – "Чаму нацыі цярпяць няўдачу", якую напісалі эканамісты Дарон Ачамоглу і Джэймс Робінсан. Там разбіраецца, чаму адны нацыі багатыя, а іншыя – бедныя. І яны пішуць, што сакрэт багацця – гэта інстытуты. І чым больш будзе такіх інстытутаў, як напрыклад, грамадскія арганізацыі, якія аб'ядноўваюць людзей гарызантальна, тым больш будзе шанцаў для краіны і народа быць паспяховым і багатым. Таму я думаю, што стварэнне клуба – гэта вартая справа. Калі хтосьці хоча далучыцца і падмяніць мяне – цудоўна, бо я не планую кіраваць ім доўгі час. Я распішу працэс, запушчу, каб яно "само паехала", у тым ліку ў іншых гарадах і іншых краінах, потым перайду на анлайн, зраблю там тое ж самае, а потым – пераключуся на іншую справу, напрыклад, на свой бізнес ці сям'ю, і буду спакойна прыходзіць на сустрэчы клуба ўжо як удзельнік.

Дзесяць гадоў таму ў Беларусі я сумесна з іншымі заснаваў англамоўны клуб, які дзейнічаў на працягу ўсіх гэтых дзесяці гадоў і закрыўся толькі нядаўна. Там памянялася літаральна ўсё: арганізатары, спікеры, мадэратары, ініцыятары. Я на яго прыходзіў як удзельнік – і ніхто нават не ведаў, што я стаяў ля яго вытокаў! Там усё змянілася, але – працягвала працаваць.

У гэтым перавага інстытута перад высілкамі індывідуальнага чалавека – чалавек можа перадумаць, перагарэць, захварэць, у яго можа скончыцца час, змяніцца прыярытэты. А ў інстытута гэтага не адбываецца: ён можа маштабавацца, рэфармавацца,



але спыніцца яму цяжка. І гэта перавага перад ініцыятывай аднаго чалавека, які ўсё бярэ на сябе і не імкнецца ствараць сістэму.

**– З іншага боку – у Батумі ўжо ёсць аналагічныя клубы: і "размаўлялкі", і адукацыйныя, і аматары "настолак", і аматары квізаў. Можна было б далучыцца да іх, навошта ствараць свой?**

– У Батумі, па самых сціплых падліках, тры тысячы беларусаў, і кожны будзе шукаць штосьці-небудзь для сябе. Калі яму не падыдзе наш фармат нэтворкінгу, яму захочацца нечага больш акадэмічнага – ён далучыцца да іншага. Мы задавальняем розныя патрэбы.

І на тры тысячы чалавек дзве, тры пяць, дзесяць ініцыятыў – гэта вельмі мала. Іх тут па-добраму мусіць быць каля трох тысяч.

**– ???**

– У Швецыі колькасць грамадскіх арганізацый, ініцыятыў і клубаў большая за колькасць насельніцтва, і пакуль мы не дасягнем тут колькасці ініцыятыў у тры тысячы, попыт не будзе задаволены. Таму можна казаць, што ў Батумі яшчэ насамрэч амаль нічога няма. Тут вялікае поле для дзейнасці. Пакуль мы не налічым гэтых трох тысяч ініцыятыў – будзе месца, куды расці.

Таму, "няхай расцвітаюць сто кветак, няхай змагаюцца сто ідэй", як казаў Мао Цзэдун. Гэта ніяк не ажыццявілася ў Кітаі, было проста дэкларацыяй, але прынцып добры. Калі з'явіцца больш прывабны беларускі клуб, больш цікавы, і ўсе ўдзельнікі майго клуба пяройдуць туды – я буду шчаслівы.

У нас вельмі добрае партнёрства з іншымі, нам вельмі дапамагае Беларускі клуб Батумі – з памяшканнем, з арганізацыяй. Я ўжо спісаўся і з беларускім клубам Грузіі... Гэта не бізнес, мы не канкуруем за грошы, і мы можам ствараць сімбіятычныя стасункі, калі ў гэтым сімбіёзе адначасова вучымся адзін у аднаго, матывуемся быць лепшымі, больш эфектыўнымі, больш цікавымі, больш арганізаванымі, больш крэатыўнымі.

Разумееце, гэта як у камерцыі, як у бізнесе – шкодна аб'ядноўвацца і ствараць манаполію. Таму што вы злілі некалькі інстытутаў у адзін, і атрымліваецца груваcткая структура, якая ні з чым не канкуруе, нічому не вучыцца, не змагаецца за сваіх удзельнікаў – і паступова выраджаецца.

Гэта бяда беларусаў, беларускай апазіцыі, беларускіх грамадскіх арганізацый – пануе наратыў, што "трэба аб'яднацца [ў адно цэлае]". З чаго? З чаго трэба аб'ядноўвацца, калі вы зліваецеся ў адно, і робіце няўстойлівую структуру? Трэба спачатку стварыць тысячу ініцыятыў, а не саступаць месца. Потым можна наладзіць стасункі і кааперацыю між сабою, аб'ядноўваць высілкі, а не структуры. Бо інакш атрымаецца нешта "сярэдненькае", што хутка скончыцца.

Сістэма мусіць быць устойлівая, а ўстойлівыя сістэмы – не тыя, якія пабудаваныя іерархічна і ўключаюць ў сябе ўсё і ўсіх, а тыя, якія маюць шмат цэнтраў, якія ўзаемадзейнічаюць. Калі адключыцца адзін цэнтр – іншыя падхопяць яго функцыі і будуць працягваць дзейнасць. Таму я хацеў бы, каб было больш грамадскіх ініцыятыў, арганізацый, палітычных партый, бізнесаў, стартапаў, чаго заўгодна. Тады мы хутчэй станем паспяховымі і дасягнем сваіх мэт.

**– Як вы ацэньваеце старт свайго клуба – па першых дзвюх сустрэчах?**

– У бізнесе мы звычайна ацэньваем даходам, вяртаннем інвестыцый (ROI). Тут для мяне прамежкавая мэта – апісанне працэсу. Я стартаваў з тых пытанняў, якія ў мяне засталіся ад беларускага клуба ў Мінску. Цяпер у мяне ёсць больш-менш набор правілаў, ёсць касцяк людзей, якія прыходзілі ў першы і ў другі раз – і яны прыйдуць і ў трэці. Гэта азначае, што мы дакладна зможам сабраць групу на наступную сустрэчу.

На першай сустрэчы было 9 чалавек, на другую прыйшлі 17, і, магчыма, хутка мы будзем абмяжоўваць колькасць удзельнікаў і ствараць атмасферу ажыятажу. Гэта вельмі добра працуе, калі людзям не хапае месцаў, бо яны спазніліся, калі ёсць адбор удзельнікаў – гэта стварае вакол нашай тэмы, вакол беларускай мовы аўру элітнасці. Гэта становіцца sexy, гэта эксклюзіў, і гэта становіцца крута.

**– Вы не думаеце, што тая "элітнасць", наадварот, адштурхне патэнцыйных удзельнікаў? Людзі не змогуць трапіць на сустрэчу першы раз, другі – і пойдуць шукаць больш даступныя месцы?**

– Ведаеце, у Мінску існаваў англамоўны клуб "Фіяльта". У іх было вельмі маленькае паўпадвальнае памяшканне, там змяшчалася максімум 15 чалавек, яны збіралі заяўкі праз гугл-форму, абіралі на сустрэчы кожнага трэцяга ці кожнага пятага... І, нягледзячы на тое, што наш клуб існаваў і даўжэй, чым яны, і памяшканне было большае – людзі казалі пра "Фіяльту" так, нібыта той клуб быў больш варты, чым наш. У "Фіяльту" трапіць было эксклюзіўна, элітна, я сам туды некалькі разоў запісваўся.

Ёсць такі псіхалагічны момант – "момант высокай базы". Калі вы, напрыклад, збіраецеся набыць дом, і вам заломваюць мільён еўра, а потым скідаюць кошт да 500 тысяч еўра, то гэты дом вам падасца больш прывабным, чым той, які са старту каштаваў 500 тысяч еўра. Гэта тая самая "высокая база".

Беларуская мова цяпер, па факце, канкуруе з іншымі тэмамі. Калі вы створыце "элітнасць" беларускай мове, а чалавек будзе абіраць, ісці яму ў клуб аматараў фіялак альбо ў клуб беларускай камунікацыі, куды яму пашэнціла трапіць, – ён пойдзе ў клуб беларускай камунікацыі.

Можа, кагосьці гэта і закране, але, калі вы не зможаце трапіць у наш клуб – стварайце свой. Альбо папярэдне запісвайцеся. Або прыходзьце ў час. А лепш – загадзя.

У тэлеграм-групе Батумскага клуба беларускамоўнай практыкі на момант напісання матэрыялу было 88 удзельнікаў. Месцаў на наступнай сустрэчы сапраўды можа не хапіць – улічвайце гэта! :)

**Аліна Бялова, budzma.org**

# ПОЛЬШЧА ПРАПАНУЕ ДАДАТКОВЫЯ МАГЧЫМАСЦІ БЕЛАРУСАМ

Польскі Сейм прыняў папраўкі ў заканадаўстве, якія легалізуюць знаходжанне беларускіх уцекачоў у Польшчы і пашыраць для іх магчымасці.

8 красавіка польскі Сейм прыняў папраўкі ў заканадаўства аб дапамозе грамадзянам Украіны ў сувязі з узброеным канфліктам на тэрыторыі іх краіны. Сярод іншага, польскія дэпутаты прагаласавалі за аказанне дадатковай дапамогі і беларускім бежанцам.

Беларусы, уцекачы ад вайны з Украіны ў Польшчу, змогуць атрымаць гуманітарныя візы без збору.

У выпадку, калі ў беларусаў заканчваецца дзеянне гуманітарнай візы, то яны змогуць атрымаць часовы від на жыхарства тэрмінам на тры гады. Беларусам з такім відам на жыхарства можна будзе працаваць без асобнага дазволу на працу. У 2023 годзе ўладальнікі такога віду на жыхарства змогуць атрымаць дакумент, з якім змогуць знаходзіцца ў іншых краінах Еўрасаюза.

**mostmedia.io**





# У КІЕВЕ З'ЯВІЦЦА СКВЕР У ГОНАР КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА

У сталіцы Украіны з'явіцца сквер імя Кастуся Каліноўскага. Пра гэта паведамляе грамадскі актывіст Валерый Сляпухін, які займаўся пытаннем увекавечання памяці лідара вызвольнага паўстання 1863 года.

"Добрая навіна згубілася на абшарах глабальнай сеткі ў сувязі з нападам на Украіну расейскіх войскаў. Але скверу Кастуся Каліноўскага быць! Такое рашэнне прыняла Камісія па пытаннях найменняў Кіеўскай дзяржадміністрацыі. Цяпер афіцыйна. Засталося зацвердзіць мясцовым дэпутататам", – кажа Валерый Сляпухін.

Сквер у гонар Кастуся Каліноўскага ў Кіеве паўстане на перасячэнні вуліц Гарадзенскай і Алмаацінскай у Дняпроўскім раёне. Рашэнне было прынятае дзякуючы сістэмнай працы прадстаўнікоў беларускай абшчыны Кіева.

**Штодзень**

кнігі

# Яраслаў Іванюк: прыйдзе час, калі за ўсё якаснае і беларускае трэба будзе плаціць

Як з’явіўся Kamunikat.org – найбольшая беларуская інтэрнэт-бібліятэка ў свеце? Ці чытаюць кнігі ў часы вайны? Ці ёсць будучыня ў папяровых выданняў? Што будзе, калі ў Беларусі зачыняць усе незалежныя выдавецтвы?



Яраслаў Іванюк – старшыня фонду Kamunikat.org, сябра ўправы Беларускага гістарычнага таварыства, журналіст. Паходзіць з мясцовых беларусаў Падляшша, жыве непадалёк Беластока.

З Яраславам мы сустрэліся на сядзібе БГТ і Фонду Kamunikat.org непадалёк цэнтра горада. На паліцах безліч кніг: гістарычная і мастацкая літаратура, мемуарыстыка, краязнаўства, слоўнікі, газеты і часопісы. Сапраўдны беларускі “кніжны каўчэг”. Усё гэта патроху “пераплаўляецца” ды паўстае ў лічбавай форме на партале Kamunikat.org.

**– Як пачынаўся праект “Камунікат”?**

– У 2000-м у мяне нарадзіўся сын. Жонка, будучы цяжарнай, навучыла мяне рабіць сайты, пісаць html-код. Мяне – гуманітарыя, гісторыка. Сама яна матэматык. І гэта было “ўаў”! Тады я вырашыў, што варта перавесці ў анлайн бюлетэнь беларускай службы Польскага радыё, які акурат называўся “Камунікат”.

У бюлетэні мы публікавалі тэксты некаторых нашых перадач, у тым ліку “Гістарычнае падарожжа”, якім я займаўся. Там былі размовы з рознымі гісторыкамі з Беларусі і Падляшша. Калі некалькі перадач перавёў у сеціва, яны займелі найбольшы фідбэк. З гэтага пачаў фармавацца наш рэсурс, хоць тады я яшчэ не разумеў, што гэта пачатак сапраўднай беларускай інтэрнэт-бібліятэкі.

Майму сыну зараз 22 гады – столькі ж “Камунікату”. За гэты час на нашым рэсурсе сабралася больш за 50 000 публікацый. Кнігі, часопісы, газеты. Не толькі сучасныя, але і старыя выданні: адлічбаваныя газеты і часопісы “Беларус”, “Бацькаўшчына”, “Зважай”, “Божым шляхам”, “Ніва” ды іншыя. Таксама беларускія выданні 80-90-х – “Свабода”, “Пагоня”. Зараз кожны можа спампаваць гэта ў pdf.

**– Гэта сапраўды вялізны масіў інфармацыі для гісторыкаў і даследчыкаў. А што наконт мастацкай літаратуры ці папулярнай гісторыі?**

– Да 2007 года мы працавалі без падтрымкі звонку, як прыватны праект. Гэтым займаліся 3-4 чалавекі, уключна з Аляксандрам Максімюком ды Наталляй Герасімюк. На сёмым годзе праекта з’явіўся больш сучасны рухавік сайту, а таксама мы пачалі рабіць аўтарскія дамовы з пісьменнікамі. Гэта дазволіла легальна змяшчаць іх творы.

У раздзеле “Беларускія аўтары” зараз профілі больш 300 творцаў. Маем кнігі Ніла Гілевіча, Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Аляксея Карпюка. З амаль усімі паспеў сустрэцца і падпісаць дазвол на публікацыю твораў. Апроч Аляксея Карпюка – трэба было дамаўляцца з нашчадкамі.

З сучасных аўтараў: Уладзімір Арлоў, Уладзімір Някляеў, Алесь Краўцэвіч, Міхась Скобла, Барыс Пятровіч, Генадзь Сагановіч, Андрэй Федарэнка, Зміцер Бартосік, Эдуард Акулін, Людміла Рублеўская, Валянціна Аксак, Леанід Дранько-Майсюк, Валеры Гапееў, Павал Севярынец, Валянцін Акудовіч ды іншыя вядомыя творцы. Запампоўвай і чытай сабе!

**– Ці былі выпадкі, калі нехта адмаўляўся даваць свае творы?**

– Два выпадкі. Прозвішчаў называць не хачу. Адна асоба нават вельмі значная ў нашай літаратуры: там адмова прыйшла нават не ад яе асабіста, але ад агента. З іншай асобай яшчэ больш цікава: чалавек напісаў прамым тэкстам, што не хоча, каб яго кнігі былі побач з “апазіцыйнымі” аўтарамі. Я быў уражаны, бо той аўтар абсалютна не асацыяваўся з рэжымным саюзам пісьменнікаў, але – ягоная справа. Дарэчы, не толькі мы шукаем аўтараў – часам пісьменнікі самі звяртаюцца, каб іх творы з’явіліся на “Камунікаце”.

**– Зараз мы жывём у новай рэальнасці: пасля 2020-га і пасля пачатку вайны. З’ехалі безліч людзей, пакінуўшы, сярод іншага, свае любімыя кнігі. Ці стае “Камунікат” свайго роду віртуальным “кніжным каўчэгам”?**

– “Камунікат” – вельмі шырокі праект з вялікай палітрай аўтараў, твораў, жанраў. На пачатку размовы я рабіў ухіл на эміграцкія выданні, але на гэтым усё не сканчаецца. Я б наогул не размяжоўваў, бо ўсё гэта – складнікі вялікага пазла нашага літаратурнага працэсу і грамадскай думкі.

У нас да апошняга нумару публікаваліся pdf-версіі газет “Новы Час”, “Н**а Н**а”, “Народная Воля”, ёсць літаратурныя часопісы “Дзеяслоў” і “Верасень”. Некаторыя выданні знікаюць па зразумелых прычынах. Ліквідаваныя Таварыства беларускай мовы ці Саюз беларускіх пісьменнікаў, а значыць і выданні, прывязаныя да іх. Але ў нас усё захоўваецца.

Пасля 2020-га быў усплёск цікавасці да беларушчыны – мы назіралі павышэнне прагляду і спамповак файлаў. Зараз цікавасць упала, бо вайна. Тое самае мы назіралі і ў 2014-м. Бо калі вайна, то людзям не да літаратуры. Больш думаюць пра выжыванне. Не час для чытання доўгіх тэкстаў.

**– З якіх краін свету вас чытаюць?**

– Агулам больш за 100 краін. Беларусь, Польшча, Расія, Украіна. Далей – Нямеччына, ЗША, Чэхія ды іншыя. Зараз больш прагляду з Грузіі – там утварылася вялікая беларуская дыяспара. У такія змрочныя часы не перастаеш думаць пра надзённае, але добрая літаратура можа дапамагчы ўсё гэта перажыць.

**– Што карыстаецца найбольшай папулярнасцю?**

– На дзіва, гэта розная тыпу слоўнікі. Імі карыстаюцца вучні, студэнты, навукоўцы. Пазней – мастацкая літаратура ды гістарычная. Ну і часопісы, але з імі па-рознаму, бо гэта бязмежнае мора.

**– Што наконт адаптацыі сайту для гаджэтаў: планшэтаў, айфонаў і гэтак далей?**

– Працуем над гэтым. Вы можаце зайсці на сайт са смартфона, але памер і велічыня знакаў не будуць прыстасаваныя. Плануем скончыць да канца года. Рыхтуемся таксама да тэхналагічнай рэвалюцыі на сайце: старонка перапісваецца з нуля, ад пачатку. Таксама – рэбрэндынг. Усё ў працэсе.

Спрабуем з аўдыёкнігамі. На гэты момант ёсць тры, але яны яшчэ не выкладзеныя на сайце. Гэта “Сядзіба” Алеся Аркуша, “Жэтон на метро” Андрэя Федарэнкі, а таксама “Айчына” Арлова ў аўтарскім выкананні. У планах запісаць да канца году 40-50 гадзін сучаснай беларускай літаратуры ў аўдыёфармаце.

**– Ёсць думка, што за добры прадукт трэба браць грошы, інакш людзі не будуць яго цаніць. У вас – усё бясплатна. Ці слушны гэта падыход?**

– Лічу, зараз не той этап. Магчыма, каб Беларусь была на тым самым

культурным і нацыянальным узроўні, што Украіна, то – можа быць. А пакуль не. Прыйдзе час, калі за ўсё якаснае і беларускае трэба будзе плаціць. Але не зараз. Пакуль мы можам даць нешта дарам, распаўсюдзіць, трэба гэта рабіць.

**– У вас ёсць лозунг “Беражы лес – чытай кнігі на Kamunikat.org!”. А што наконт папяровай літаратуры? Ці мае яна будучыню?**

– Напрыканцы мінулага года да нас звярнуўся Уладзімір Някляеў з прапановай надрукаваць яго кнігу “Гэй Бэн Гіном” у папяровым фармаце. Мы пагадзіліся. Кнігу выдалі, але што з ёй рабіць далей? Асабліва ў Польшчы, калі прэзентацыі ў Беларусі немагчымыя? Як кніга трапіць да чытача?..

Вырашылі зрабіць прэзентацыі ў найбольшых беларускіх асяродках Польшчы: Варшава, Уроцлаў, Познань, Гданьск, Кракаў, Лодзь, Беласток, Бельск Падляскі, а яшчэ дзве ў Вільні. Быў сапраўдны аншлаг: увесь тыраж разышоўся на прэзентацыях! Мы дадрукавалі яшчэ тыраж, каб яго ўжо прадаваць праз інтэрнэт.

Яшчэ рана пісаць пра незапатрабаванасць папяровай кнігі. Так ужо было: калі з’явілася кіно, то “хавалі” тэатр. Калі з’явілася тэлебачанне, то “хавалі” кіно... Але ўсё гэта жыве паралельна. Я 22 гады займаюся інтэрнэт-бібліятэкай, але калі атрымліваю кнігу ў pdf-фармаце, адразу ж хачу займець яе на кніжнай паліцы. На днях чытаў раман “Локісаў” Артура Клінава на паперы. Прыклад з кнігай Някляева паказаў, што такія праекты, на жаль, запатрабаваныя...

**– Чаму “на жаль”?**

– Бо такія кнігі маюць выходзіць у Беларусі. Але з’ехала вельмі багата людзей. Калі ездзілі па Польшчы з Арловым з прэзентацыямі, нават гучала лічба – 150-200 тысяч беларусаў тут. З гэтымі людзьмі трэба працаваць.

**– У Беларусі адно за адным зачыняюць прыватныя выдавецтвы беларускай літаратуры. Ці можа скласціся сітуацыя, калі будзе патрэба масава выдаваць беларускія кнігі ў замежжы?**

– Мы да гэтага гатовыя. Ёсць ужо некалькі прапаноў ад беларускіх аўтараў выдаць іх кнігі акурат у Польшчы і тут жа правесці прэзентацыі. Можа атрымаецца не так маштабна, як з Някляевым, бо гэта асаблівы аўтар. Але ўжо сёлета, думаю, у нас будуць чарговыя папяровыя выданні.

Апошнім часам мы зладзілі некалькі прэзентацый двухмоўнай беларуска-польскай кнігі балад Уладзіміра Арлова “Паручнік Пятровіч і прапаршчык Здань”. Праўда, не мы яе выдалі, а выдавецтва “Варштаты Культуры” з Любліна, але на сустрэчах ва Уроцлаве, Варшаве ці ў Бельску Падляскім было шмат зацікаўленых. Найбліжэйшая прэзентацыя гэтай кнігі адбудзецца ў Беластоку 29 красавіка ў Падляскім Інстытуце Культуры (ul. Św. Rocha 14, Spodki).

Бачыце, нават мы праз сітуацыю вымушаныя дзейнічаць крыху насуперак свайму лозунгу – “Беражы лес – чытай кнігі на Kamunikat.org!”.

**Раман Ганчарэнка, mostmedia.io**

**навіны**

# ЯК ЗАХАВАЦЬ БЕЛАРУСКАСЦЬ НА ПАДЛЯШШЫ?

Праз што жыхары Падляшша, якія пражылі тут усё жыццё, асэнсоўваюць сябе беларусамі? Што дапамагае, а што замінае захоўваць ідэнтычнасць? І ці ёсць нагода для аптымістычнай будучыні мясцовых беларусаў?




26 красавіка ў Беластоцкім Універсітэцкім цэнтры культуры адбылася адкрытая дыскусія па тэме “Самавызначэнне беларусаў Падляшша”, піша MOST.

Да размовы запрасілі выбітных беларусаў Падляшша: мастака Лявона Тарасевіча, журналістку і спявачку Ілону Карпюк, гісторыка Алега Латышонка, журналістку Анэту Прымака-Онішк і культурніцкага менеджара Паўла Станкевіча. Мадэравалі дыскусію літаратуразнаўца Катажына Савіцка-Мяжыньска і журналіст Мікола Ваўранюк. Сустрэчу транслявалі анлайн, а ахвотныя прысутныя задавалі пытанні.

### Знайсці сваіх

Так складвалася ў гісторыі, што беларусы заўсёды былі і ёсць часткай Падляшша. Але што пра іх вядома, акрамя спецыфічнасці мясцовага дыялекту? Кім яны сябе лічаць? На чым будуюць самавызначэнне, да якога народа сябе адносяць? Ва ўсім гэтым і спрабавалі разбірацца на працягу амаль дзвюх гадзін.

Размова пачалася з развагі удзельнікаў пра вытокі самаасэнавання. Для кагосьці штуршком стала старэйшае пакаленне, для кагосьці – царква ці літаратура, але амаль для ўсіх – мова і гісторыя. Многія адзначылі, што значным этапам для ўсведамлення сваёй “іншасці” стала вучоба ці праца па-за межамі родных мясцін і пошук там “сваіх”.

Лявон Тарасевіч згадаў агульнае развіццё беларускага руху ў краі і зазначыў дзейнасць такіх асоб, як Ежы Туронак, Сакрат Яновіч, Ежы Латышонак. Павел Станкевіч агучыў, што лічыць сябе на 100% беларусам і на 100% палякам, і задаўся пытаннем, чаму патрэбна гэта неяк падзяляць. Удзельнікі абмяркоўвалі, як разумеюць паняцце “самавызначэнне” і якія складнікі бачаць у ім.

### Адкрыць культуру нанова

Пэўны дыспут разгарэўся на абмеркаванні ролі праваслаўнай царквы. Лявон Тарасевіч адзначыў, што праваслаўная царква хутчэй адштурхоўвае ад беларускасці, чым далучае, і атрымаў моцную падтрымку апладысментамі ад гледачоў. Размаўлялі пра мову рэгіёну, прагнозы на будучыню і свае назіранні за дзецьмі: як яны праходзяць падобны шлях, але ўжо ў зусім іншых умовах.

Удзельнікі дыскусіі некалькі разоў прыгадалі, што ў рэгіёне няма аніводнай беларускай школы. Дадалі, што веданне беларускай дапамагае вучыць і разумець іншыя славянскія мовы.

Напрыканцы сустрэчы Павел Станкевіч адзначыў, што пасля 2020 года “беларускія” беларусы нанова адкрываюць сваю культуру і, магчыма, змогуць станоўча паўплываць на станаўленне самасвядомасці беларусаў Падляшша.

**mostmedia.io**

**вайна**

# ЯК МОЖНА ДАПАМАГЧЫ УКРАІНЕ

**1. Нацбанк Украіны адкрыў спецыяльны дабрачынны рахунак дапамогі краіне**



**2. Збор сродкаў у Польшчы**



**3. “Беларускі моладзевы хаб” збірае гуманітарку, забірае і размяшчае людзей**



**4. Partyzanka Freeshop збірае гуманітарную дапамогу**






танцы

# “Верабей”, “Карапет” і “Бяроза белая”: у Варшаве прайшла спеўна-танцавальная вечарына

У Беларускім моладзевым хабе ў Варшаве 9 красавіка прайшла спеўна-танцавальная вечарына. Выступіў гурт Lity Taler, скрыпачка Лізавета Рэўт і гурток традыцыйных спеваў.

Вечарына распачалася вяснянкамі “Ой, бяроза белая” і “Вол бушуе, вясну чуе”. Спявачкі павадзілі разам з наведвальнікамі карагод пад “Медуніцу”.

Потым перайшлі да парных танцаў: вывучылі “Верабей”, “Карапет”, “Базар”, “Падыспань”, “Польку-бабачку”, “Месяц” ды іншыя. Танчылі пад дуды, скрыпку і бубен.

Ужо стала добрай традыцыяй выконваць на беларускіх канцэртах і вечарынах украінскія творы.

У моладзевым хабе праспявалі “Туман яром” па-ўкраінску і вывучылі танец “Баламут”.

Завяршыла вечарыну гульня “Бабыль”, таксама вядомая як “Удавец”.

Для беларусаў, якія апынуліся ў Варшаве па сваёй і не сваёй волі, спеўна-танцавальныя сустрэчы – гэта нагода адчуць сувязь з радзімай, даведацца нешта новае пра ўласную культуру ці згадаць старое. Для музыкаў – магчымасць пагграць разам.

На вечарыну завітала таксама некалькі палякаў і ўкраінцаў, якія цікавяцца фальклорам не толькі сваіх краін.

**Алена Ляшкевіч, budzma.by**

in memoriam

# У Францыі памёр дзеяч беларускай дыяспары Лявон Шыманец

14 красавіка на 85-м годзе жыцця адышоў у лепшы свет найстарэйшы дзеяч беларускай дыяспары ў Францыі Лявон Шыманец. Пра гэта паведамляе на сваёй старонцы ў фэйсбуку даследчыца беларускай эміграцыі Наталля Гардзіенка.



Лявон Шыманец – прадстаўнік паваеннай эміграцыі, грамадскі дзеяч, сын Уладзіміра Шыманца, брат старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы.

Лявон Шыманец нарадзіўся 8 траўня 1937 года ў Стоўпцах. У 1944 годзе разам з бацькамі пакінуў Беларусь. Спачатку апынуўся ў Даніі, потым у 1948 годзе прыбыў у Францыю. Жыў з бацькамі ў Сартрувілі (Sartrouville) пад Парыжам. Скончыў тэхнічную школу ў Парыжы. Працаваў інжынерам у фірме, што вырабляла электроніку для ваенных самалётаў, у 1982 гадзе стаў кіраўніком аддзелу. Быў сябрам “Хаўрусу” беларусаў у Францыі. З 1977 года – у кіраўніцтве. У 1991 годзе быў адным з заснавальнікаў таварыства “Беларусь–Францыя)”. У 1992–1995 гадах быў кіраўніком створанай у Мінску структуры ЕС – Цэнтра па энергасбераджэнні.

**Наталля Гардзіенка**

## Беларускі каляндар памятных дат на травень 2022 года

**1 траўня**
- 100 гадоў таму, у 1922-м, нарадзіўся Алесь Салавей (сапр. Альфрэд Радзюк, на эміграцыі Альберт Кадняк), паэт, дзеяч эміграцыі ў Аўстрыі і Аўтраліі. Памёр у 1978-м.

**2 траўня**
- 25 гадоў таму, у 1997-м, загінуў Валерый Шаблюк, гісторык.

**3 траўня**
- 145 гадоў таму, у 1877-м, нарадзіўся Антон Грыневіч, збіральнік музычнага фальклору, кампазітар. Памёр у 1937-м.
- 130 гадоў таму, у 1892-м, нарадзіўся Аляксанд Вальковіч, дзеяч нацыянальнага руху. Расстраляны ў 1937-м.

**4 траўня**
- 90 гадоў таму, у 1932-м, нарадзіўся Мікола Прашковіч, літаратуразнавец. Загінуў у 1983-м.

**12 траўня**
- 180 гадоў таму, у 1842-м, памёр Валенці Ваньковіч, мастак.

**15 траўня**
- 110 гадоў таму, у 1912-м, нарадзіўся Анатоль Іверс (сапр. Іван Міско), паэт. Памёр у 1999-м.

**16 траўня**
- 365 гадоў таму, у 1657-м, забіты Андрэй Баболя, місіянер, пазней прызнаны святым і кананізаваны.
- 260 гадоў таму, у 1762-м, нарадзіўся Юзаф Копаць, адзін з камандзіраў паўстання 1794 г. Памёр у 1827-м.

**20 траўня**
- 120 гадоў таму, у 1902-м, нарадзіўся Язэп Пушча (сапр. Язэп Плашчынскі), паэт. Памёр у 1964-м.

**23 траўня**
- 55 гадоў таму, у 1967-м, памёр Мікола Дзямідаў, вайсковы дзеяч.
- 30 гадоў таму, у 1992-м, у Гданьску адбыўся ўстаноўчы сход Беларускага культурнага таварыства “Хатка”.

**25 траўня**
- 105 гадоў таму, у 1917-м, памёр Максім Багдановіч, паэт.
- 85 гадоў таму, у 1937-м, нарадзіўся Сяргей Сідар, географ. Памёр у 1998-м.
- 35 гадоў таму, у 1987-м, памёр Яўген Калубовіч (на эміграцыі Каханоўскі), гісторык, грамадска-палітычны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**26 траўня**
- 45 гадоў таму, у 1977-м, памёр Янка Пачопка, паэт, фальклярыст.

**31 траўня**
- 70 гадоў таму, у 1952-м, нарадзілася Тамара Чабан, літаратуразнавец. Памерла ў 1992-м.
- 30 гадоў таму, у 1992-м, памёр Васіль Стома, пісьменнік, грамадскі дзеяч эміграцыі ў Францыі, Бельгіі і ЗША.

**Беларусы ў свеце**
№ 4 (239), красавік 2022
Інфармацыйны бюлетэнь
Супольнасць беларусаў
свету “Бацькаўшчына”

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандрацэнка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com